

# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны,*
*дзвінскі ўзгорак,*
*каб глядзець у будучую сінь*

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №9 (96)
ЧЭРВЕНЬ 2019 ГОДА

ПРЫВАТНЫЯ ІНІЦЫЯТЫВЫ

## ПЯТЫ АДАМАЎСКІ ФЭСТ

**Адамаўскі фэст, заснаваны 5 гадоў таму ў памяць пра знакамітага вучонага-батаніка Уладзіміра Адамава, упершыню прайшоў на тэрыторыі ягонай колішняй сядзібы ў Віцебскім раёне.**

Паводле нязменнай традыцыі, першай часткай фэсту было назіранне за птушкамі разам з прадстаўніцай грамадскага аб'яднання «Ахова птушак Бацькаўшчыны» Галінай Захаравай. Па дарозе ад чыгуначнай станцыі да вёскі Вялікія Лётцы гасцей знаёміў з гэтымі мясцінамі заснавальнік Адамаўскага фэсту, краязнаўца Міхаіл Дук: — Тут жыў і працаваў Уладзімір Уладзіміравіч Адамаў, вядомы батанік, які ўваходзіў у Топ-100 адмыслоўцаў у гэтай галіне. А ідэя фэсту заключаецца ў тым, каб людзі маглі выехаць на прыроду, крыху павандраваць, а потым усё гэта завяршыць, слухаючы выступы добрых музычных калектываў.

Сёлета ўпершыню госці фэсту змаглі трапіць у сядзібны будынак, які ў пачатку 20-га стагоддзя належаў батаніку Адамаву. Пазней тут размяшчаліся розныя ўстановы, у тым ліку мясцовыя школа. Пэўны час будынак пуставаў і разбураўся, але цяпер у яго ёсць новы гаспадар — віцебскі прадпрымальнік Максім Жукаў: — Я даведаўся пра сядзібу Адамава ў 2017-м годзе. Мне вельмі спадабалася гэтая імпрэза —Адамаўскі фэст. Адной з частак была экскурсія да сядзібы Уладзіміра Адамава. Так, гэта закінуты дом, але месца дужа спадабалася, запомнілася. І было дакладнае разуменне, колькі сіл сюды трэба ўкласці, і што я буду тут рабіць.

Максім Жукаў хоча стварыць тут культурніцкую пляцоўку для правядзення фэстаў, творчых майстар-класаў, канцэртаў. Першы з іх прайшоў падчас 5-га Адамаўскага фэсту. А ў перспектыве, магчыма, у сядзібным будынку з'явіцца і музей Уладзіміра Адамава.

**«Радыё Рацыя»**

КРЫМІНАЛ

## ПАГРАЖАЕ ПАЗБАЎЛЕНЬНЕ ВОЛІ

**У дачыненні да 32-гадовага раней судзімага жыхара Віцебскага раёна распачата крымінальная справа па артыкуле 364 Крымінальнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь (гвалт у дачыненні да супрацоўніка органаў унутраных спраў з мэтай перашкодзіць яго законнай дзейнасці).**

Як распавёў начальнік Віцебскага раённага аддзела следчага камітэта Аляксей Ларькін, канфлікт паміж зламыснікам і супрацоўнікам унутраных спраў адбыўся ў перыяд правядзення спецыяльнага комплекснага мерапрыемства "Нагляд".

Участковы інспектар міліцыі аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі міліцыі грамадскай бяспекі АУС Віцебскага райвыканкама праводзіў праверку па месцы жыхарства мужчыны 1986 года нараджэння, за якім устаноўлены прэвентыўны нагляд.

- У стане алкагольнага ап'янення вясковец паводзіў сябе агрэсіўна. Наўмысна ужыў гвалт у дачыненні да праваахоўніка, – дапоўніў інфармацыю па тым, што здарылася Аляксей Ларькін. – У выніку супрацьпраўных дзеянняў фігурант крымінальнай справы пашкодзіў форменнае абмундзіраванне супрацоўнікаўнутраныхсправаўіпрычыніў апошняму цялесныя пашкоджанні.

Па дадзеных следства, мазалаўчанін раней ужо быў судзімы. Вызваліўшыся пасля адбыцця пакарання, маючы нязнятую і непагашаную судзімасць, належных высноў для сябе не зрабіў, на шлях выпраўлення і перавыхавання не стаў, зноў здзейсніўшы наўмыснае злачынства.

Па інкрымінаваным артыкуле мужчыну пагражае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі аж да 6 гадоў.

**А.Адамаў**

НЕ – СЬМЯРОТНАМУ ПАКАРАНЬНЮ

## ПАДАЗРАВАНАМУ ПАГРАЖАЕ РАССТРЭЛ

**У Віцебскім абласным судзе 24 чэрвеня пачалося слуханьне крымінальнай справы, распачатай у дачыненьні да жыхара Віцебскага раёну Віктара Паўлава. Яго падазраюць у забойстве дзьвюх пэнсіянэрак у вёсцы Прысушына Віцебскага раёну. Мужчыне пагражае сьмяротнае пакараньне.**

Супраць 50-гадовага мужчыны высунутыя абвінавачаньні па ч.3 арт.207 КК (Разбой) і ч.2 арт.139 (Забойства). Старшынюе на паседжаньні судзьдзя Яўген Даўлюд.

Падсудны прызнаў сваю віну, але ня згодны з абвінавачаньнямі па арт. 207 і п.12 ч.2 арт.139 (забойства з карысьлівых мэтаў). Патлумачыў у судзе, што не зьбіраўся пэнсіянэрак ані рабаваць, ані забіваць, а прыйшоў у госьці з цалкам добрымі намерамі.

Адзначым, што Віктар Паўлаў быў раней асуджаны паводле таго ж самага артыкулу. За забойства мужчыны ён правёў за кратамі 10 гадоў, вызвалены ў 2015 годзе.

Трагедыя ў Прысушыне адбылася 30 сьнежня 2018 году. Паводле вэрсіі сьледзтва, злачынца трапіў у дом жанчын з мэтай рабаваньня. Ён напаў на гаспадынь (сёстрам было 77 і 79 гадоў) і стаў іх зьбіваць драўлянай палкай. Ад атрыманых траўмаў яны памерлі.

Паводле інфармацыі, агучанай у судзе пракурорам, абвінавачаны забраў з дому пэнсіянэрак сумку, дзьве бутэлькі віна, рукавіцы, флікэр і каля 150 рублёў наяўных грошай. Кошт скрадзенага склаў каля 7-мі базавых велічынь.

Абвінавачаны патлумачыў, што з адной з забітых ён пазнаёміўся летам 2018 году, калі прыйшоў да яе, каб купіць бутэльку віна. Пазьней ня раз прыходзіў у той дом, каб рабіць працы па гаспадарцы. Бабулі давалі яму за працу 10-15 рублёў. Сталай жа працы мужчына ня меў, перабіваўся невялікімі заробкамі...

Нагадаем, праваабаронца Павал Левінаў накіраваў у траўні зварот да судзьдзяў судовай калегіі па крымінальных справах Віцебскага абласнога суду з просьбай не караць сьмерцю падазраванага ў забойстве дзьвюх жанчын у Прысушыне.

«Памятайце, што сьмяротны вырак легалізуе інстытут легальных забойцаў, якія зьдзяйсьняюць наўмысныя забойствы», — папярэджваў праваабаронца судзьдзяў.

**Уладзімер Бяляўскі**
**«Віцебская Вясна»**



КУЛЬТУРА

## СЬВЯТА Ў ГОНАР ВАСІЛЯ БЫКАВА

**У роднай вёсцы Васіля Быкава 22 чэрвеня адзначылі 95-ю гадавіну з дня народзінаў народнага пісьменьніка Беларусі. Месцам сёлетняй сьвяточнай імпрэзы, якую арганізаваў рух "За Свабоду", стала пляцоўка перад будынкам былой школы, якую ў свой час скончыў клясык беларускай літаратуры.**

Перад пачаткам імпрэзы спорны дождж загнаў шаноўную публіку пад паветку, і старшыня руху "За Свабоду" Юрась Губарэвіч вымушаны быў пачаць выступ, хаваючыся пад падстрэшкам над ганкам. Але неўзабаве ліць перастала – мерапрыемства прайшло пры добрым надвор'і і настроі.

"Літаратурная і грамадзкая дзейнасьць Васіля Быкава ёсьць урокам для ўсіх беларусаў, але 95-я ўгодкі пісьменьніка афіцыйна ніяк не адзначаюцца. Ва ўлады іншыя прыярытэты: яна аддае перавагу правядзенью спартовых мерапрыемстваў, адцягваючы ўвагу грамадзтва ад надзённых праблемаў", – зазначыў у сваёй прамове Юрась Губарэвіч.

Адзін з пачынальнікаў дэмакратычнага руху на Віцебшчыне Хрыстафор Жаляпаў у кароткім выступе нагадаў, што ідэя правядзеньня сьвяточных імпрэзаў у Бычках упершыню была агучаная 16 гадоў таму грамадзкай актывісткай з Шаркоўшчыны Адай Райчонак.

Ада Райчонак распавяла гісторыю пра тое, як яна, настаўніца рускай мовы і літаратуры, дзякуючы Васілю Быкаву пачала размаўляць па-беларуску.

Маладая паэтка зь Менску Крысьціна Бандурына прачытала ўрывак з кнігі Быкава "Сьцяна", а потым, скарыстаўшыся нагодай, пазнаёміла публіку з двума ўласнымі вершамі.

Грамадзкая актывістка зь Віцебску Таццяна Севярынец, назваўшыся "упаўнаважаным прадстаўніком сям'і Севярынцаў", прачытала ўрывак з вершаванага трыптыху "Бычкі", які стварыў ейны муж Канстанцін.

Старшыня абласнога аддзяленьня Беларускага саюзу мастакоў Сьвятлана Баранкоўскаяпрывезла ў Бычкі два свае знакамітыя габэлены, прысьвечаныя Быкаву.Раскрываючыдэйнуюканцэпцыю аднаго зь іх, мастачка пераконвала, што толькі ад нас залежыць, "ці нашае бел-чырвона-белая існасьць стане шырэйшай і квітнеючай, ці мы дазволім яе спаскудзіць і яна станчыцца..."

Бешанковіцкі бард Георгі Станкевіч выканаў тры свае песьні, прысьвечаныя Васілю Быкаву.

У музычнай частцы імпрэзы першым выступіў Андрусь Такінданг. Музыка цешыў публіку сваімі іранічна-гумарыстычнымі сьпевамі.

Другім мусіў выступаць Зьміцер Бартосік. Гэтым разам ён прыехаў не адзін, а зь сям'ёю. Знакаміты бард напачатку заявіў, што сьпяваць не зьбіраецца. Але на гэтым сюрпрызы ня скончыліся. Поўнай неспадзяванкай для прысутных стаўся выступ сямейнага ансамблю.

Пад акампанэмэнт бацькоў Зьмітра і Таццяны дзеці прасьпявалі фальклёрныя і аўтарскія песьні. Па-сапраўднаму прафэсійна! Зьміцер Бартосік сказаў, што з назвай калектыву пакуль ня вызначаліся, але чарнавым варыянтам зьяўляецца назва "Бартосікі".

**«Віцебская Вясна»**

НЕСПРАВЯДЛІВАСЬЦЬ

# 7829 РУБЛЁЎ ДЛЯ ВІЦЕБСКАГА РАЙВЫКАНКАМА

**Усяго-то нейкіх 7829 рублёў трэба для рамонту ліўнёўкі і асобных участкаў асфальтабетоннага пакрыцця двара Віцебскага райвыканкама.**

Дэфектны акт патрабуе неадкладнага ўмяшання і прывядзення ў належны стан заактаваных аб'ектаў. Каля 8000 рублёў тэрмінова, да канца ліпеня, павінны быць асвоены і па новым асфальце запульсуюць абцасікі работніц і важна затупаюць абцасы важных адказных супрацоўнікаў Віцебскага райвыканкама. Хоць гэта ж двор! Магчыма яны так ні разу яшчэ не бачылі таго жудаснага стану, у якім знаходзіцца асфальтабетоннае пакрыццё двара Віцебскага райвыканкама. Я таксама не бачыў. Але не шкада нейкіх 8000 рублёў на добраўпарадкаванне, гэта ж з мясцовага бюджэту. Бо, напэўна, ужо ўсё зроблена ў Віцебскім раёне, усюды укатаны асфальт, няма праблем у камунальнай гаспадарцы і людзі задаволеныя. Можна заняцца і добраўпарадкаваннем двара Віцебскага райвыканкама, што знаходзіцца ў Віцебску, на вуліцы Савецкай Арміі, дом №3.

Пастойце, а чаму дагэтуль райвыканкам знаходзіцца ў Віцебску? Вось было б добра перанесці яго бліжэй да народа, напрыклад, у Ноўку або Бабінічы, падыдзе і Кіраўскі або Кастрычніцкая. Забыўся, бо ўсе работнікі Віцебскага райвыканкама пражываюць у Віцебску, ім будзе накладна дабірацца на працу і з працы, будзе дарма марнавацца дэфіцытны час слуг народа ды і раён то Віцебскі? Можа перанясем райвыканкам у Сураж і пераназавем раён?

**А.Смаленскі**

ЗДАРЭНЬНІ, КРЫМІНАЛ

# ОБНАРУЖЕН СКЛАД МИН

**Утром 3 мая более семи десятков немецких боеприпасов были обнаружены на поле неподалеку от аэропорта «Витебск».**

Когда на вызов приехали саперы войсковой части 5524 они насчитали 23 минометные мины калибра 81 миллиметр и 52 минометные мины калибра 50 миллиметров — судя по калибрам, это боеприпасы минометов s.G.W.34 и eGrW 36, состоявших на вооружении вермахта во время Второй мировой войны.

Также там нашли один снаряд калибра 75 миллиметров, также от какой-то немецкой артсистемы. Из общей картины выбивается только граната РПГ-40 — это советская фугасная противотанковая граната, которая содержит 760 грамм взрывчатки.

Деревня Бондари находится всего в семистах метрах от взлетно-посадочной полосы международного аэропорта Витебск. Населенный пункт от ВПП отделяет сельскохозяйственное поле.

Все эти взрывоопасные предметы были уничтожены расчетом саперно-пиротехнической группы, информация об этом размещена на интернет ресурсе УВД Витебского облисполкома.

**А. Смоленский**

ПАЗЫЦЫЯ

# АДМІНІСТРАЦЫЙНЫЯ СПРАВЫ СКАСАВАЛІ

**За апошнія месяцы на віцебскага распаўсюдніка незалежнай прэсы тройчы складалі пратаколы за «загрувашчванне вуліцы».**

Маўляў, ягоны раштунак – столік, бела-чырвоны парасон, сцягі – замінае мінакам праходзіць па вуліцы Леніна. Але днямі Барыс Хамайда атрымаў з аддзела міліцыі Чыгуначнага раёна пастановы пра скасаванне дзвюх справаў. Высветлілася, што пратаколы адмовілася разглядаць адміністрацыйная камісія выканкама Чыгуначнага раёна, бо ёй бракавала доказаў вінаватасці апазіцыянера.

Барыс Хамайда ўспрыняў гэты аргумент з гумарам: – Можа, нам падаецца, што змены вельмі далёка. А раптам яны побач? Старшыня адміністрацыйнай камісіі і ягоны намеснік, мусіць, людзі няглупыя. І яны таксама разумеюць, што трэба будзе далей жыць, як прыйдзе новая ўлада. Ну што ж?

Пасля адмовы адміністрацыйнай камісіі разглядаць пратаколы міліцыя так і не змагла пацвердзіць вінаватасць Барыса Хамайды. Таму дзве справы супраць яго скасавалі, у тым ліку і справу, распачатую за адзначэнне Дня Волі 25 сакавіка. Невядомы лёс толькі апошняга з трох пратаколаў за "загрувашчванне вуліцы", які на Барыса Хамайду склалі 30 красавіка.

**Ганна Ліпка**
**«Радыё Рацыя»**

# БАНДА «ЧЕРНЫХ РИЕЛТОРОВ» ОБЕЗВРЕЖЕНА

**Представились сотрудником милиции и работником расчетно-кассового центра, угрожали штрафом — жертвой шайки «черных риелторов» в Витебске стал 40-летний пьющий безработный.**

По подозрению в мошенничестве в областном центре задержаны 32-летний мужчина и 53-летняя женщина, а также их соучастники — 42-летний и 47-летний мужчины и 21-летней девушка, заставившие витеблянина продать его двухкомнатную квартиру.В милицию обратилась жительница Витебска, которая сообщила, что пропал ее бывший муж. Он жил один, нигде не работал и часто выпивал.

Оперативникам удалось выяснить, что незадолго до исчезновения мужчина оформил сделку по продаже своей двухкомнатной квартиры. При дальнейшей разработке милиционеры знали, что на имя пропавшего человека собираются покупать комнату. Когда сделка по приобретению недвижимости была завершена, ее участников задержали.

Согласно информации органов правопорядка между 27 мая и 6 июня к витеблянину наведались члены банды и под видом сотрудника милиции и представителя расчетно-кассового центра, уговорили его продать недвижимость якобы для оплаты оплаты штрафа, задолженностей по коммунальным платежам и алиментам. Они обещали ему купить более дешевое жилье, а за счет разницы погасить имеющуюся задолженность. После этого злоумышленники разместили в интернет объявление о продаже «двушки». Продав квартиру, подозреваемые нашли своей жертве другое жилье, гораздо более дешевое, а разницу в размере более 36 000 рублей забрали себе.

Все пятеро участников шайки были задержаны по подозрению в мошенничестве. Троих из них заключили под стражу. Витебский городской отдел Следственного комитета возбудил уголовное дело по части 4 статьи 209 УК — мошенничество, совершенное организованной преступной группой.

Сейчас правоохранители проводят необходимые следственные действия и оперативные мероприятия, направленные на установление всех обстоятельств мошенничества. Проверяется причастность задержанных к совершению подобных преступлений с недвижимостью.

Пострадавших от действий людей изображенных на фото, милиция просит обратиться по телефону в управление уголовного розыска УВД Витебского облисполкома по телефонам 8-029-715-66-93, 8 -29-711-24-50, 102 или в оперативно-дежурную службы УСК по Витебской области +37533 3998044 (круглосуточно).

**Иван Дедушкин**
**«Народныя навіны Віцебска»**

ЭПІДЭМІЯ

# ЦІ ГАТОВЫ ВІЦЕБСКІ РАЁН ДА ЭПІДЭМІІ ЧУМЫ СВІНЕЙ?

**Смяротны вірус свіней, які прыйшоў у Еўропу з Афрыкі, цяпер разбурае кітайскую індустрыю свініны аб'ёмам 128 мільярдаў даляраў і распаўсюджваецца на іншыя азіяцкія краіны, піша Bloomberg.**

Вірус вельмі вірулентны і ўстойлівы, і распаўсюджваецца некалькімі шляхамі. Вакцыны супраць яго не існуе. Хоць вірус свіней не наносіць шкоды людзям, нават калі яны ядуць сапсаваную свініну, узровень смяротнасці сярод свіней пагражае свінагадоўчай галіне.

У Кітаі ён распаўсюджваецца сярод 440 мільёнаў свіней, што складае палову ад агульнай колькасці на планеце.

Прагназуецца, што колькасць свіней, якіх Кітай будзе адкормліваць сёлета, скароціцца на 134 мільёнаў, або на 20% — найгоршы гадавы спад з тых часоў, як міністэрства сельскай гаспадаркі ЗША пачало лічыць кітайскіх свіней у сярэдзіне 1970-хгадоў.

Вопыт барацьбы Іспаніі з гэтым вірусам паказвае, наколькі ён небяспечны. У краіне былі ўведзеныя строгія санітарныя меры і індустрыялізаваная сістэма вытворчасці свіней, але спатрэбілася 35 гадоў і дапамога Еўрапейскага Саюза, перш чым хвароба была ліквідаваная ў 1995 годзе. Італьянскі востраў Сардзінія беспаспяхова спрабуе пазбавіцца ад віруса на працягу чатырох дзесяцігоддзяў.

Адна з прычын, па якой афрыканскую чуму свіней так цяжка выкараніць, заключаецца ў тым, што яе лёгка перадаць. У дадатак да прамога кантакту з заражанай свіннёй вірус можа перадавацца жывёлам, якія ядуць заражаную вірусам свініну або корм, праз забруджаную вопратку ці абсталяванне, альбо калі свіння п'е ваду, якая змяшчае нават нязначную колькасць віруса.

Свінні і дзікі з'яўляюцца тыповымі ўтылізатарамі адходаў, якія паглынаюць бялок з самых розных крыніц, уключаючы кухонныя адходы, гной і мёртвых свінняў. У той час як усёедная прырода жывёл робіць іх недарагімі пераўтваральнікамі пажыўных рэчываў, гэта таксама з'яўляецца асноўнай прычынай таго, што афрыканская чума свіней лёгка распаўсюджваецца.

Вірус таксама цяжка адсачыць. Свінні могуць інкубаваць яго на працягу 5-15 дзён і могуць распаўсюджваць інфекцыйныя часціцы на працягу аднаго-двух дзён, перш чым захварэць. Гэта азначае, што вірус можа непрыкметна распаўсюджвацца ў адходах, мясе і крыві інфіцыраваных свіней, якія на выгляд не хворыя, асабліва калі яны нелегальна транспартуюцца або забіваюцца да пастаноўкі дыягназу. Афрыканская чума свіней можа перажыць экстрэмальныя тэмпературы і кіслотнасць.

**«Наша Ніва»**

## АБ'ЯВА

***Каб атрымліваць кожны нумар газеты "Дзвінскі Узгорак" паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэдэфануйце.***

***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты "Дзвінскі Ўзгорак".***

***Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***




АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# КАЛІ НЕ ЁН, ДЫК ХТО Ж?

**Важная асаблівасць «беларускай мадэлі» — адсутнасць электаральных рэйтынгаў у вышэйшых службовых асобаў дзяржавы.**




Сярод маіх калегаў і знаёмых няма прыхільнікаў расійскага прэзідэнта Уладзіміра Пуціна. Таксама ў маім блізкім коле няма і тых, хто аддаваў бы перавагу аб'яднанню з Расіяй, а не ўступленню ў Еўрасаюз.

Аднак, калі меркаваць па шматгадовых даследаваннях НІСЭПД, прадстаўнікі еўрапейскага выбару заўсёды знаходзіліся ў Беларусі ў меншасці. Падчас апошняга апытання (лета 2016 года) незалежныя сацыёлагі зафіксавалі наступнае размеркаванне геапалітычных прыхільнасцяў беларусаў: аб'яднанне з Расіяй — 42%, уступленне ў Еўрасаюз — 34%, не здолелі адказаць — 24%.

Варта звярнуць увагу на высокі працэнт рэспандэнтаў, што не далі адказу. Здзіўляцца гэтаму не даводзіцца: усё, што звязана са знешняй палітыкай, ляжыць па-за межамі штодзённага вопыту простага чалавека. Таму свайго меркавання наконт геапалітыкі ў яго няма і быць не можа.

Аднак усё мяняецца, калі пераходзіць на асобы. Прыводжу размеркаванне адказаў на пытанне: «Як Вы ставіцеся да прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна?» (чэрвень 2012 года): станоўча — 48%, абыякава — 35%, адмоўна — 13%, не здолелі адказаць — 4%.

Упалітыцы футболе, як вядома, разбіраюцца ўсе, але не ў любой палітыцы, а ў рэдукаванай да асабістых адносін. Як кажа мая сястра, чалавек з вышэйшай адукацыяй, якая ўсё сваё свядомае жыццё пражыла ў Ленінградзе-Пецярбургу: «Пры алкаголіку Ельцыне мы ледзь зводзілі канцы з канцамі, а Пуцін — малайчына, таму і жыццё наладзілася».

Пры Ельцыне (1991–1999) сярэдняя цана нафты складала 16,5 долара за барэль. Пры Пуціне яна тры гады запар трымалася вышэй за 110 долараў за барэль. Акрамя таго, большая частка прэзідэнцтва Ельцына прыйшлася на час, калі савецкага парадку ўжо не існавала, а новы яшчэ не сфармаваўся. Але спрабаваць растлумачыць такія «тонкасці» маёй сястры — значыць марнаваць час.

**Не выключэнне, а правіла**

Калі я сутыкаюся па-за сваім блізкім колам з прыхільнікамі расійскага прэзідэнта, што гатовыя абараняць свайго куміра з пенай у рота, задаю ім простае пытанне-тэст: «А чым жа так вызначыўся Пуцін да таго, як стаў прэзідэнтам?» Нескладана здагадацца, што ўцямнага адказу на гэтае пытанне мне яшчэ ні разу не далі.

Заходжу на асабісты сайт нацыянальнага лідара Расіі. У раздзеле «Біяграфія» чытаю: «Пасля вяртання з Германіі ў Ленінград Уладзімір Пуцін з 1990 года займаў пасаду памочніка рэктара Ленінградскага дзяржуніверсітэта па міжнародных пытаннях». Іншымі словамі, ён быў звольнены з органаў, ці я нешта няправільна разумею?

Адпаведных каментараў у інтэрнэце — воз і вазочак. Аднак інтэрнэт — гэта памыйніца, як справядліва ахарактарызаваў сусветнае павуцінне ў свой час адзіны беларускі палітык (АП). Так што я не рэкамендаваў бы спяшацца з адназначнымі высновамі.

«Хто быў нікім, той стане ўсім». Як паказала гісторыя, гэта поўнае аптымізму прароцтва аўтара словаў «Інтэрнацыяналу» Эжэна Пацье ніякага дачынення да працоўнага класу не мае. Іншая справа — наменклатура. Таму выпадак з Пуціным — не выключэнне, а правіла. З АП, між іншым, у пачатку 1990-х адбылася аналагічная гісторыя.

Усім нам неадназначна даводзілася сутыкацца з пытаннем: «Калі не ён, дык хто?» Пытанне гэта надзвычай папулярнае на постсавецкай прасторы. Пошукам адказу на яго, як правіла, займаюцца ў апазіцыйным асяродку. Шукаюць — і не знаходзяць.

Незалежная сацыялогія марнасць пошукаў пацвярджае. Напрыклад, у чэрвені 2016 года электаральны рэйтынг АП склаў 30%, а ў яго бліжэйшых апанентаў Караткевіч і Статкевіча — 5%, у Мілінкевіча і Някляева — 3%. Далей ідзе яшчэ шэраг вядомых у вузкіх апазіцыйных колах прозвішчаў са значэннем рэйтынгу ніжэй статыстычнай памылкі.

Усё звыкла. Усё заканамерна. Але ў гэтым спісе няма ніводнага прозвішча прадстаўнікоў улады. Ні кіраўніка ўрада, ні старшыні парламента!

Пры такой сацыялогіі не павінна здзіўляць актуальнасць пытання: «Калі не ён, дык хто?» Але сацыялогія толькі фіксуе рэальнасць, яна яе не фарміруе.

Пошукі крыніц феномену адзінага палітыка прапаную правесці з дапамогай дырэктара Лявада-цэнтра Льва Гудкова: «У параўнанні з рэйтынгам папулярнасці палітыкаў у дэмакратычных краінах, дзе існуе палітычная і эканамічная канкурэнцыя і ёсць свабодная прэса, адкрытая крытыка ўлады. Мы маем справу зусім з іншай з'явай — гэта арганізаваны кансенсус, які трымаецца на вельмі магутнай машыне прапаганды (вылучана. — рэд.)».

**Ленін думае пра нас**

На якой падставе футбольныя фанаты лічаць Ліянэля Месі вялікім футбалістам? Безумоўна, прэса не абыходзіць яго бокам, ды і рэкламадаўцы да яго добразычлівыя. Але следства не варта блытаць з прычынай. Месі, перш за ўсё, футбаліст, які забівае ў кожным сезоне больш за 30 галоў. Хочаце стаць другім Месі і зарабляць звыш 100 мільёнаў долараў на год? Няма праблем. Пачынайце рэгулярна забіваць лепшым камандам свету.

АП на беларускім палітычным полі гуляе ў ганаровай адзіноце. Ён забівае мячы ў браму, у якой няма брамніка. Таму і актуальнае пытанне: «Калі не ён, дык хто?» Між тым, спецыялістаў, здольных забіваць у пустую браму, знойдзецца ў Беларусі калі і не мільён, то ўжо сотня тысяч гарантавана. Але якімі б ні былі іх асабістыя якасці, шанцаў быць дапушчанымі паганяць мяч па палітычным полі ў іх няма. Не для таго чвэрць стагоддзя таму АП «падняў уладу з бруду».

Каб азнаёміцца са спецыфікай працы машыны беларускай прапаганды, далёка хадзіць не трэба. Прапаганда — на тое і прапаганда, каб быць публічнай. Ненавязлівасць не з'яўляецца яе моцнай бокам.

Возьмем які-небудзь выпадкова абраны прэс-рэліз з сайта АП. Напрыклад, за 21 траўня 2019 года — ён прысвечаны нарадзе па актуальных пытаннях эканомікі. Сапраўды, больш значную тэму адшукаць складана. Нездарма ж АП пастаянна нагадвае нам, што падмуркам паспяховай дзяржавы з'яўляецца моцная эканоміка.

І якую інфармацыю пра стан беларускай эканомікі мы можам даведацца з прэс-рэлізу? Абсалютна ніякую. Прыводжу тыповы фрагмент дакумента: «Хацелася б пачуць ад прэм'ер-міністра і віцэ-прэм'ераў, якая сітуацыя ў нас з экспартам. Натуральна, найважнейшае пытанне — валавы ўнутраны прадукт. Які ў нас рух у гэтым кірунку?»

Інтрыгуючы пачатак, пагадзіцеся. Праблема, аднак, палягае ў тым, што нічога, акрамя пытанняў АП, тэкст прэс-рэлізу не ўтрымлівае. Пытанні ёсць, а адказаў на іх няма. Такі вось своеасаблівы рэмейк маналогу сатырыка Міхаіла Жванецкага «Сход на лікёра-гарэлачным заводзе» з яго знакамітым рэфрэнам: «Шкада, што мы так і не здолелі паслухаць начальніка транспартнага цэху».

Для чаго ж тады такі «змястоўны» дакумент быў размешчаны на галоўным дзяржаўным сайце? У чым яго сэнс? З якой мэтай падобныя дакументы потым тыражуюць дзяржаўныя СМІ?

А сэнс якраз і палягае ў тым, каб пераканаць чытачоў у наяўнасці ў краіне адзінага палітыка, які ўвесь час трымае руку на пульсе краіны і якому ёсць справа да ўсяго. Карацей, «Ленін думае пра нас».

Гэтай жа мэце служаць рэгулярныя наведванні АП прамысловых і сельскагаспадарчых прадпрыемстваў…

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

ЛУКАШЭНКА — 25

# КУДЫ ЁН НАС ЗАВЁЎ?

**Нагода для святкавання ёсць, але святочных усмешак бракуе. Кіраўнікі краінаў, якія ўваходзяць у Еўразійскі эканамічны саюз, адзначылі ў Нур-Султане пяць гадоў з моманту падпісання Дамовы аб ЕАЭС. Для беларускага кіраўніка гэта не адзіная гадавіна сёлета. У снежні мінае 20 гадоў з моманту падпісання Дамовы аб стварэнні Саюзнай дзяржавы, а ўжо ў ліпені — 25 гадоў з таго дня, як Лукашэнка зрабіўся прэзідэнтам Беларусі.**

Ці ёсць што святкаваць, высвятляла Вольга Жарнасек.

Пяць гадоў для кожнага хаўрусу — дастаткова тэрмін, каб зрабіць першыя падсумаванні і падзяліцца назіраннямі. «Еўразійскі эканамічны саюз мае аўтарытэт на міжнароднай арэне. Часам мы чуем, чытаем дый самыя кажам, што з намі нібыта не хочуць супрацоўнічаць. Проста зайздросцяць», — запэўнівае Аляксандр Лукашэнка.

Надзвычай пазітыўная ацэнка. Але літаральна ў сакавіку падчас «Вялікай размовы» кіраўнік Беларусі ацэньваў ЕАЭС зусім інакш: «Я вялікіх надзеяў не маю ў плане нашага Еўразійскага эканамічнага саюзу».

Ці штосьці змянілася за гэты час? Наўрад ці. Розныя, а часам супрацьлеглыя меркаванні для розных аўдыторыяў — даўно і добра вядомы стыль вонкавай палітыкі Аляксандра Лукашэнкі. Што да рэальнай ацэнкі ЕАЭС, то эксперты не маюць сумневаў.

Валер Карбалевіч, палітычны аглядальнік: «Еўразійскі эканамічны саюз — гэта, паводле праекту Расеі, праграма геапалітычная. Сэнс яе ў тым, каб Расея магла ўплываць на постсавецкую прастору, трымаць яе пад кантролем».

Сапраўдным хаўрусам цяжка назваць і гэтак званую Саюзную дзяржаву Расеі ды Беларусі, якая сёлета адзначае 20-гадовы юбілей. «Гэта быў 1999 год, калі ў Расеі прэзідэнтам быў стары, хворы, непапулярны Ельцын, а ў Беларусі тады на пад'ёме быў малады, энергічны, харызматычны Лукашэнка», — згадвае Валер Карбалевіч.

Планы Лукашэнкі ачоліць новае ўтварэнне перакрэсліў таксама малады і не менш энергічны пераемнік Барыса Ельцына. З таго часу Беларусь пад кіраўніцтвам Лукашэнкі атрымала безліч эканамічных прэферэнцыяў, што прывяло да істотнай залежнасці беларускай эканомікі ад Крамля.

На думку Карбалевіча, Расея, якая была доўгі час галоўным спонсарам і галоўнаю крыніцаю выжывання беларускага рэжыму, сёння становіцца крыніцаю пэўных праблемаў. Праблемаў і пэўных пагрозаў.

Пагроза стала відавочнаю пасля анексіі Крыму Расеяй і пачатку ўзброенага канфлікту на Данбасе, інспіраванага Масквою. З'явіліся пытанні, ці Беларусь стане наступнаю.

Аляксандр Сыцін, палітолаг Цэнтру палітычных дасьледаванняў Паўночнай і Усходняй Еўропы, Расея: «З гледзішча Расеі, Беларусь — гэта не асобны народ і не асобная тэрыторыя. А Саюзная дзяржава — гэта так, нейкая праформа. Таму пры найменшай пагрозе, спробе Беларусі нейкім чынам адысці да Захаду, магчымыя абсалютна любыя сцэнары. Можа, акрамя рэальных танкаў на Менск».

Тым не менш расейская агрэсія ва Украіне змусіла шукаць Аляксандра Лукашэнку іншыя пункты апоры ў вонкавай палітыцы. Майстар балансавання ўзяў на сябе ролю міратворца ў расейска-ўкраінскім канфлікце і ўгаварыў бакі правесці ў Менску мірныя перамовы.с

Дзмітрый Грамакоў, сацыёлаг, кіраўнік даследніцкіх праектаў украінскага цэнтру «РАНД»: «Так, мы ўдзячныя Лукашэнку за наданне гэтай пляцоўкі і за тыя ўмовы, каб гэтыя сустрэчы ў прынцыпе адбыліся. Але сказаць, што ён адыграе нейкую ролю, — гэта дастаткова ўмоўна».

Так ці інакш, роля міратворца прынесла кіраўніку Беларусі канкрэтныя дывідэнды. У 2015 годзе Еўразвяз прыпыніў санкцыі супраць Лукашэнкі, а праз год канчаткова выдаліў яго са свайго чорнага спісу і пачаў запрашаць на Захад. 1 верасня кіраўніка Беларусі чакаюць у Польшчы, дзе адбудуцца ўрачыстасці памяці пра пачатак Другое сусветнае вайны.

*(скарочана)*

**"Белсат"**
**https://belsat.eu**

ПАЧАТАК ВАЙНЫ

# ЯКІ КАВАЛАК ВАЙНЫ ЗЬНІК У САВЕЦКІ ЧАС

**22 чэрвеня 1941 года нямецкія войскі напалі на СССР. І хаця заходні пункт савецкай мяжы і мяжы БССР знаходзіўся тады за 150 кілямэтраў ад Берасьця, менавіта з абароны крэпасьці савецкая прапаганда зрабіла адзін з галоўных мітаў вайны. Чаму прапаганда намагалася схаваць і забыць падзеі першага дня вайны ў самай заходняй кропцы БССР?**

Пра белыя плямы пачатку савецка-нямецкай вайны Свабодзе расказаў гісторык Андрэй Катлярчук, дацэнт унівэрсытэту Сэдэртарна ў Швэцыі.

**Пралік Сталіна**

Калі мы паглядзім на мапу БССР чэрвеня 1941 году, то пабачым, што там ёсьць клін — Беластоцкі выступ. У той час Беластоцкая вобласьць была заходняй мяжой БССР. Яе далучылі да Беларусі ў 1939 годзе на моцы пакту Молатава-Рыбэнтропа. І гэта быў пралік Сталіна. Бо вялікая мяжа зь Нямеччынай стварала тое, што савецкая прапаганда называла — «вераломны і нечаканы напад». Калі б быў калідор у выглядзе іншай краіны, то такі напад быў бы немагчымы.

**Вайна не была сюрпрызам для СССР**

22 чэрвеня ў Беластоцкай вобласьці знаходзіліся элітныя савецкія войскі, фактычна найлепшыя часткі 10-й арміі, у тым ліку 6-га мэханізаванага корпусу. Тысяча танкаў, адборныя часткі, якія чакалі нападу. 20 чэрвеня начальнік памежных войскаў усяго СССР Сакалоў нечакана прыехаў у райцэнтар Ломжа на самай акраіне Беластоцкай вобаласьці. Немцы дэманстратыўна вывелі тэхніку, гарматы, і паставілі іх насупраць пагранічных заставаў. Ужо ў той жа дзень памежная служба была пераведзеная на «ўзмоцнены варыянт нясеньня службы».

**Татальная катастрофа саветаў**

Вайна пачалася ў Аўгуставе і ў Ломжы. У ноч, калі немцы напалі, там адбылася татальная катастрофа. Большасьць памежнікаў загінула ў першых масіўных баях. Камандзір 87-га пагранатраду ў Ломжы Гурый Здорскі напісаў у мэмуарах, што разам са сваёй групай памежнікаў выйшаў з акружэньня ажно пад Рагачовам. У яго было 2 тысячы салдатаў і зь іх загінула 1600. Паніка, адступленьне, больш за 300 тысяч палонных на магістралі ад Беластоку да Слоніма. Была парушаная ўся сувязь, а трэба памятаць, што гэта быў цэнтар вайсковага кіраваньня. Паводле нямецкіх дадзеных, было пакінута больш за 3 тысячы танкаў, абсалютна непашкоджаных, 245 самалётаў.

**Разьня на Беласточчыне вырашыла кампанію 1941 году**

На пытаньне, чаму праз тыдзень немцы былі ўжо ў Менску, а 10 ліпеня — пад Смаленскам, адказ адзін — Беластоцкі выступ. Многія гісторыкі лічаць, што прычынай фіяска савецкіх войскаў стаў памылковы сцэнар Генэральнага штабу. Савецкія вайскаводы чакалі галоўнага ўдару на Ўкраіне, а ён прыпаў на Беласток. Кіеў змагаўся і быў захоплены ўвосень 1941-га, а ў Менску, трэцім найважнейшым цэнтры СССР, немцы былі ўжо праз тыдзень. Не пасьпела адбыцца эвакуацыя, і наступствы гэтага былі драматычныя. Тое, што адбылося там у чэрвені, і вырашыла кампанію 1941 году.

**Вінаватых — расстраляць**

Кіраўніцтва Заходняга фронту было 2 ліпеня выклікана Сталіным у Маскву. Генэрал Дзьмітрый Паўлаў і ўсе ягоныя намесьнікі былі расстраляныя па артыкулах за «нядбайнасьць» і «невыкананьне сваіх службовых абавязкаў». Пасьля сьмерці Сталіна яны былі рэабілітаваныя.

**Забыць, бо ня ўпісваецца ў канцэпцыю**

Падзеі на Беласточчыне пасьля вайны замоўчваліся, бо псавалі гераічны міт вайны, дзе было месца толькі перамогам. Калі б пра гэта казалі ў савецкія часы, то давялося б тлумачыць, як так, што тэрыторыя СССР і БССР, якая да вайны была наша, ужо ня наша. Савецкая канцэпцыя «чужой зямлі ня трэба, сваёй не аддамо» тут не спрацоўвала. Таму гэты кавалак вайны цалкам зьнік у савецкі час.

**Дзьмітры Гурневіч**
**"Радыё Свабода"**

ІІ ЕЎРАПЕЙСКІЯ ГУЛЬНІ

# ПАГОНЯ, ВІТАЎТ, ШАГАЛ, БЫКАЎ

**На стадыёне «Дынама» ў Мінску прайшло афіцыйнае адкрыццё ІІ Еўрапейскіх гульняў. Маштабнае шоу было пакліканае адлюстраваць беларускія традыцыі, каштоўнасці і гісторыю.**



Таму на сцэну выходзілі танцоры, стылізаваныя пад персанажаў батлейкі. Ажылі касцюмы Бакста і карціны Шагала — усе гэтыя мілыя закаханыя і казлы. Была свая цэльнасць у гэтай эклектыцы: усё пачалося з песні Пахмутавай «Молодость моя, Белоруссия», а пасля былі і беларускія этна-спевы, і Ганна Нятрэбка з Ігарам Крутым.

Жарэс Алфёраў змяняў Вітаўта і рыцараў Вялікага Княства з калюмнамі і Пагонямі.

У тэлевізійнай версіі Пагоня засталася амаль незаўважнай.

Былі Усяслаў Полацкі і праслаўленыя нядаўняй знаходкай шлемы, Леў Сапега са Статутам ВКЛ і інжынер Казімір Семяновіч, Ефрасіння Полацкая і авіяканструктар Сухой.

Усё гэта суправаджалася дэкламацыяй складаных вершаў — у тым ліку «Спадчыны» Купалы, «Усе мы разам ляцім да зор» Багдановіча, а таксама Адама Міцкевіча.

Адным з рэжысёраў цырымоніі адкрыцця стаў беларус Аляксандр Вавілаў. Ён падрыхтаваў аснову, з якой пазней працавалі расіяне з кампаніі кампазітара Ігара Крутога, якая выйграла тэндар. Цырымонія складалася з сямі эпізодаў, кожны з якіх быў прысвечаны сюжэту з гісторыі і культуры Беларусі: Купаллю, Сярэднявеччу, сучаснасці і гэтак далей.

А тэлевядоўца з гонарам расказаў, што ў часы Вітаўта наша дзяржава прасціралася ад мора да мора і ад Буга да Угры.

Ушанавалі і старажытны род Радзівілаў.

Спявалі беларускія музычныя зоркі — ад «Тройцы» да оперных зорак Сільчукова і Ляўчук.

Варта адзначыць, што ўвогуле адкрыццё атрымалася вельмі беларусацэнтрычным, разлічаным на ўзмацненне гонару за Беларусь.

Нібы фінальный кропкай стала ўвасобленае на ручніку выказванне Васіля Быкава з «Сотнікава»: «Адзіная рэальная каштоўнасць у чалавека на свеце — яго жыццё».

З гэтым гуманістычным матывам перагукаліся словы Аляксандра Лукашэнкі ў ягоным выступе перад тым як запаліві Агонь гульняў. Ён заклікаў, каб дзяржавы вызначылі самую магутную выключна на спартовых арэнах.

Прэзідэнт Еўрапейскіх алімпійскіх камітэтаў Янез Качыянчыч выступіў па-беларуску, чым сарваў авацыю трыбун. А вынеслі алімпійскі сцяг і запалілі агонь — у выглядзе Папараць-кветкі — вялікія беларускія спартоўцы мінулых гадоў.

**Зміцер Панкавец**
**Сяргей Гезгала**

БЕЛАРУСЬ – РАСІЯ

# ЛУКАШЕНКО В КАПКАНЕ

**Неужели Кремль почти дожал? Подходы Москвы и Минска в вопросах интеграции сблизились на 90%, заявил российский министр экономического развития Максим Орешкин. Несколько недель назад белорусский премьер Сергей Румас говорил, что так называемое углубление интеграции согласовано на 70%.**

Орешкин подчеркивает, что обсуждение идет строго в рамках союзного договора, подписанного в 1999 году. Но в том-то и фишка, что тогда молодой президент Александр Лукашенко подмахнул документ, реализация которого грозила и сегодня грозит Беларуси потерей суверенитета, пишет политолог Александр Класковский в своей колонке на «Белсате».

Злые языки поговаривают, что амбициозный «славянский витязь» Лукашенко метил на место старого больного Бориса Ельцина. Но место занял цепкий Владимир Путин, который стал форсировать вопрос элегантного поглощения Беларуси под маркой «братского единения».

Так Беларусь оказалась в капкане вместе с вождем. Правда, первые атаки Кремля в минувшем десятилетии Лукашенко отбил. Всеми правдами и неправдами отбоярился от единой валюты, заявив журналистам, что за зарплатой в Кремль ездить не собирается…

**Две ошибки белорусского вождя**

Первая ошибка Лукашенко была в том, что он понадеялся обхитрить империю, затеяв с ней игру в «братскую интеграцию». Но эпоха «нефти за поцелуи» закончилась. Империя решила встать с колен, показала свою хватку на Грузии, Украине, а теперь вот взяла в оборот и Минск.

Вторая ошибка Лукашенко в том, что он надеется как-то разрулить ситуацию с Путиным, не проводя реформ и не подключая народ.

Но без трансформации страшно привязанная к ресурсам и рынку России белорусская экономика будет слабеть, а значит, будет таять и ресурс сопротивления кремлевскому нажиму. Без сильного политического класса и мощного, национально сознательного гражданского общества не будет духовных гарантий независимости.

Однако правящий Беларусью четверть века Лукашенко очевидно боится дать отмашку на реформы и открутить гайки в общественно-политической сфере. Ведь могут зашататься устои личной власти. Так что — тащить и не пущать. Назначая на прошлой неделе нового министра внутренних дел, глава государства дал красноречивый наказ: «Тот, кто заслуживает по башке или по морде, — должен получить».

Страны Балтии на рубеже 1990-х использовали исторический шанс, чтобы оторваться от империи. Да, рай земной не построили, но зарплаты там в разы выше белорусских, и шантажировать вентилем эти государства ЕС и НАТО Москва уже не может.

В белорусском же случае петля надежна, и Кремль не торопится. Не грозит танками и зелеными человечками. Он издевательски вежлив: а помните бумаженцию, которую подписали на излете прошлого тысячелетия? Ну так что, будем сближаться или строить из себя оскорбленную невинность?

Не бывает «братской интеграции» с империей. Дай мизинчик — откусит руку.

*(скарочана)*

**Александр Класковский**
**https://belaruspartisan.by**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку 28.06.2019 у 17.50**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.